*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ 22(130) ◈ 2 чэрвеня 1993 г. ◈ Кошт — па дамоўленасці.

## ПОСТУП ТЫДНЯ



*У МЕНСКУ ПРАЙШЛА МІЖНАРОДНАЯ НАВУКОВАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ «Балты і этнагенез беларусаў», якую арганізаваў цэнтр этнакасмалогіі «Крыўя».*

◆

**ВЫЙШАЎ У СВЕТ ПЕРШЫ НУМАР** новай палітычна-грамадскай і культурна-асветніцкай газеты «Менская Грамада». Віншуем заснавальнікаў і супрацоўнікаў газеты з пачаткам і жадаем поспехаў на ніве Адраджэння.

◆

*УРАД ЛЕТУВЫ ВЫДЗЕЛІЎ 6 МІЛЬЁНАЎ ТАЛОНАЎ на вывучэнне стану і магчымасцей рэстаўрацыі замкаў, у тым ліку і тых, што знаходзяцца на тэрыторыі нашай краіны. Што ж, калі гаспадар не дбае пра свае гістарычныя святыні, то заўсёды знойдзецца сусед, які палічыць іх сваімі і паспрабуе прыбраць іх у свае рукі.*

◆

*29—30 ТРАЎНЯ У БЕЛАРУСКІМ ДЗЯРЖАЎНЫМ ТЭАТРЫ ІМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ ПРАЙШОЎ III З'ЕЗД БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТА, на якім прысутнічала 566 дэлегатаў. Удзельнічалі ў пасяджэннях і выступілі В. Ландсбергіс (Літва), В. Чарнавіл (Украіна), Д. Осіпаў (Малдова), А. Латышонак (Польшча). Старшынёй БНФ абраны Зянон Пазьняк, намеснікамі В. Голубеў, У. Заблоцкі, Ю. Хадыка. Адначасова адбыўся ўстаноўчы з'езд Партыі БНФ. Абраны кіруючыя органы і старшыня. Быў прыняты шэраг ухвал, сімволіка БНФ, новая праграма БНФ і статут Партыі БНФ. Асвятляў з'езд 51 сродак інфармацыі Беларусі і блізкага замежжа.*

◆

**У НАВАПОЛАЦКІМ ПОЛІТЭХНІЧНЫМ ІНСТЫТУЦЕ** створаны аргкамітэт рэспубліканскай канферэнцыі, якая будзе прысвечана 110-годдзю з дня нараджэння Вацлава Ластоўскага. Канферэнцыя адбудзецца ў кастрычніку.

◆

*РЭСПУБЛІКУ БЕЛАРУСЬ З ВІЗІТАМ НАВЕДАЎ НАМЕСНІК ГЕНЕРАЛЬНАГА САКРАТАРА ААН ПА ГУМАНІТАРНЫХ ПЫТАННЯХ ЯН ЭЛІЯСАН. У большасці гутарка паміж кіраўнікамі Беларусі і высокім госцем была звязана з фінансаваннем праграм па мінімізацыі вынікаў ядзернай катастрофы на Чарнобыльскай АЭС.*

◆

**СПОЎНІЛАСЯ 60 ГАДОЎ З ДНЯ АДКРЫЦЦЯ Ў МЕНСКУ ДЗЯРЖАЎНАГА АКАДЭМІЧНАГА ВЯЛІКАГА ТЭАТРА ОПЕРЫ І БАЛЕТА БЕЛАРУСІ.**

◆

*У ШТАБ-КВАТЭРЫ СНД У МЕНСКУ прайшла навукова-практычная канферэнцыя, прысвечаная праблемам Садружнасці.*

# БЕЛАРУСЬ СКЛІКАЕ СВАІХ ДЗЯЦЕЙ

11 траўня ў менскім Доме літаратара адбылася прэс-канферэнцыя, якую наладзіў арганізацыйны камітэт І З'езда беларусаў свету.

Адкрываючы сустрэчу з журналістамі, дырэктар архіва-музея літаратуры і мастацтва Беларусі Г.Сурмач зрабіла заяву ад імя аргкамітэта З'езда. У заяве, у прыватнасці, адзначана: «Шляхі фарміравання беларускай эміграцыі былі розныя. Доўгі час БССР увогуле не прызнавала сваю дыяспару... А цяпер маці-Беларусь кліча наведаць Радзіму сваіх сыноў і дачок. Адбываецца гэта ў той час, калі гісторыя падаравала нам унікальны шанц адрадзіць уласную дзяржаўнасць».

Прамоўца падкрэсліла, што ініцыятарам склікання І З'езда з'яўляецца Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына», іншыя грамадскія арганізацыі, якія правядуць З'езд пры шырокім удзеле афіцыйных дзяржаўных структур Рэспублікі Беларусь. Сустаршыні З'езда, які адбудзецца 8—10 ліпеня, — В.Быкаў і П.Краўчанка.Далей прысутныя азнаёміліся з праграмай І З'езда.

Заезд шматлікіх гасцей чакаецца з 5 ліпеня. Праграмам двух наступных дзён на базе летніка «Зубраня» намечана правесці Нарачанскі форум для дзяцей і юнацтва, і многія нашы суродзічы прыедуць з дзецьмі. А ў ноч з 6-га на 7-е ліпеня — свята Купалле ў маляўнічых коласаўскіх мясцінах Стаўбцоўшчыны.

З'езд распачне работу а 10-й гадзіне 8 ліпеня ў памяшканні Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра оперы і балета. Тэма асноўнага даклада — «Шляхі і перспектывы беларускай дзяржаўнасці». Другая палавіна дня адводзіцца выступленням удзельнікаў З'езда. У наступны дзень адбудуцца пасяджэнні некалькіх «круглых сталоў», сустрэчы ўдзельнікаў і гасцей З'езда па інтарэсах. 10 ліпеня запланавана падагуліць вынікі гэтай прадстаўнічай сустрэчы беларусаў свету: прыняць заключныя дакументы, выбраць кіраўніцтва «Бацькаўшчыны».

Праграма З'езда таксама прадугледжвае іншыя разнастайныя мерапрыемствы: экскурсіі, сустрэчы дэлегатаў з сябрамі творчых саюзаў Рэспублікі Беларусь, з вядомымі дзеячамі нашай нацыянальнай культуры, з прадстаўнікамі грамадскіх рухаў і партый, прэс-канферэнцыі для беларускіх і замежных журналістаў. Да З'езда ў Палацы мастацтваў прымеркавана адкрыццё выставы «Жыве Беларусь!», дзе будуць экспанаваны творы мастакоў Беларусі і беларускага замежжа.

Сябра аргкамітэта пісьменнік Л.Казыра асвятліў пытанні прадстаўніцтва на З'ездзе. У прыватнасці, ён паведаміў, што з далёкага замежжа чакаецца прыезд на З'езд да 300 дэлегатаў і гасцей — нашых суайчыннікаў, якія стала жывуць у ЗША, Вялікабрытаніі, Аўстраліі, Германіі, іншых краінах. Толькі з ЗША на З'езд маюць прыбыць 240 асоб, якія, дарэчы, ужо заказалі сабе (амерыканская дзелавітасць) спецыяльны авіярэйс на Менск. Блізкае беларускае замежжа (беларуская дыяспара ў рэспубліках былога СССР і ў Польшчы) колькасна атрымае такое ж прадстаўніцтва на З'ездзе, як і замежжа далёкае. Што да самой Рэспублікі Беларусь, то, як падкрэсліў спадар Казыра, на І З'ездзе будуць прадстаўлены ўсе нашы рэгіёны, партыі і грамадскія рухі, творчыя саюзы, духавенства розных канфесій.

Міністр інфармацыі А.Бутэвіч пачаў сваё выступленне так: «З'езд — падзея неардынарная... Мы, нарэшце, прызналі сваіх сыноў, якія жывуць за межамі Беларусі». Ён спыніўся на тым, што ў перыяд падрыхтоўкі да З'езда сродкам масавай інфармацыі рэспублікі варта значна павысіць увагу да праблем беларускай дыяспары. Асноўная ж задача журналістаў у дні работы З'езда — своечасовае і якаснае інфармацыйнае забеспячэнне, шырокае асвятленне ў друку, па радыё, на тэлебачанні гэтай прадстаўнічай нарады беларусаў планеты.

У другой частцы сустрэчы сябры аргкамітэта І З'езда беларусаў свету адказвалі на пытанні журналістаў. Рэпартаж з прэс-канферэнцыі ў той жа дзень паказала Беларускае тэлебачанне.

Наш карэспандэнт.

# ФРАНЦУЗЫ ЗМАГАЛІСЯ НЕ ТОЛЬКІ ЗА ДЗЯРЖАЎНАСЦЬ, АЛЕ І ЗА МОВУ

*Французская мова — мова Напалеона і Бальзака, Дзідро і Мальера, дэ Голя і Сартра... Яна належыць да ліку адной з самых пашыраных у свеце моў. І зараз цяжка ўявіць, што некалі і яна павінна была змагацца за сваё выжыванне. Пра гістарычны шлях французскай мовы і праблемы яе сучаснага стану гутарыць наш карэспандэнт Любоў Баршчэўская з дэканам факультэта французскай мовы Менскага дзяржпедінстытута замежных моў В. А. Паўлоўскім.*

**— Валянцін Антонавіч, як вядома, французская мова зараз адна з самых аўтарытэтных у свеце. У той жа час даводзіцца чуць, што існуе дзяржаўная служба абароны ды і добраахвотнае аб'яднанне яе аматараў — нешта накшталт нашага ТБМ. А ўвогуле, як яна стала агульнанацыянальнай? Быў жа час, калі ў Францыі дзяржаўнай мовай была рымская, ці лаціна.**

— Сапраўды, нават цяпер, нягледзячы на інтэнсіўнае распаўсюджванне і нават засілле, дзякуючы ў асноўным амерыканцам, англійскай мовы, французская лічыцца адной з асноўных на ўсіх міжнародных форумах. Дарэчы, яна першай у Еўропе стала ў свой час мовай міжнародных зносін.

**— Замяніўшы лаціну...**

— Так. Замяніўшы мову Рымскай імперыі, у склад якой разам з іншымі краінамі Заходняй Еўропы доўгі час уваходзіла Францыя.

**— Гэта тады ўзнікла так званая «народная лаціна»? Нешта накшталт «трасянкі»?**

— Рымская мова, як яе не берaглі, паступова наклалася на мову захопленых краін, пацярпела ад асіміляцыі і такім чынам з'явілася, як Вы кажаце, своеасаблівай «трасянкай», ці «вульгарнай» лацінай.

**— А калі Францыя вызвалілася з «абдымкаў» Рымскай імперыі...**

— Усё роўна нейкі час там дзяржаўнай мовай і мовай, што важна, царквы, працягвала заставацца лацінская, а на французскай размаўлялі і пісалі паралельна.

*Заканчэнне на с. 2.*

*Нядаўна ў рэдакцыі аб'яднанай газеты ў Лідзе невядомыя асобы ўчынілі пагром. Гэта чацвёрты напад на рэдакцыю за апошнія тры гады, але злачынцы і па сённяшні дзень не знойдзены.*

*У Бабруйску ўкрадзена бронзавая скульптура В. Дуніна-Марцінкевіча, якую збіраліся ўстанавіць ля будынка драмтэатра.*

# Спыніце гвалт над беларускай мовай

*Менская гарадская рада Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны накіравала ў Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь Зварот, у якім, у прыватнасці, гаворыцца:*

**«...на старонках шматлікай афіцыйнай рускамоўнай і пракамуністычна настроенай прэсы, у іншых сродках масавай інфармацыі, у афіцыйных вусных прамовах некаторых кіруючых асоб усё шырэй распаўсюджваюцца беспадстаўныя патрабаванні аб пераглядзе Закона аб мовах у Рэспубліцы Беларусь з мэтай прыняцця ў якасці дзяржаўных дзвюх моў — беларускай і рускай. Прыняцце дзяржаўнага двухмоўя самым дрэнным чынам адаб'ецца на стане роднай беларускай мовы, якая на сённяшні дзень знаходзіцца, на жаль, у вялікім заняпадзе, што ў рэшце рэшт прывядзе да яе поўнага знікнення, як вынік — да знікнення носьбіта гэтай мовы, аднаго з найстаражытнейшых славянскіх этнасаў — беларускага...**

**Да якіх вынікаў такое стаўленне да беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай у Рэспубліцы Беларусь можа прывесці ў грамадстве, не могуць не ведаць і не разумець тыя, хто сёння штучна напружвае гэтае пытанне. Але, відаць, ім дзеля захавання сваёй улады, удушэння дэмакратычных прынцыпаў не цяжка паступіцца нават сваім сумленнем, ім не патрэбна наша Адраджэнне. Наадварот, яны толькі і чакаюць у складаных умовах эканамічнага жыцця паглыблення канфрантацыі ў грамадстве паміж прадстаўнікамі розных нацыянальнасцяў, паміж найбольш свядомай і несвядомай часткамі саміх беларусаў, раз'яднання людзей, дэстабілізацыі ўсяго грамадства, спекулюючы на моўным пытанні,— з такім народам лягчэй справіцца, здзяйсняючы свае палітычныя амбіцыі.**

**У рэшце рэшт прызнанне рускай мовы ў якасці дзяржаўнай у нашай краіне абразіла б людзей іншых нацыянальнасцяў у шматнацыянальнай Беларусі, згуртаваных у свае нацыянальныя саюзы, супольнасці — палякаў, украінцаў, летувісаў і інш., якія ў такім выпадку па праву патрабавалі б прызнання і іх моў у якасці дзяржаўных.**

**У любой цывілізаванай краіне афіцыйнае парушэнне Закона аб мовах прыводзіць да вялікіх штрафаў, спагнанняў, а ў нас нават самі прадстаўнікі вышэйшых заканадаўчых і выканаўчых улад не толькі грэбуюць, але і беспакарана абражаюць, поўнасцю ігнаруючы Закон, дзяржаўную мову.**

**У такіх варунках вынясенне пытання аб дзяржаўным двухмоўі ў рэспубліцы, дзе нішто не пагражае і не перашкаджае развіццю іншых нацыянальных моў, традыцый і культур, на ўсенародны рэферэндум, як гэта часта прапануецца асобнымі людзьмі і структурамі, было б амаральным з боку дзяржаўных заканадаўчых органаў і здзекам над усім беларускім народам...»**

*Прынята аднагалосна 5 мая 1993 г.*

# Двухмоўе ўводзіць нельга

## Вярхоўнаму Савету Рэспублікі Беларусь

1 верасня споўніцца тры гады, як уступіў у дзеянне Закон аб мовах. Аднак можна сказаць, што дзяржаўныя структуры не вельмі імкнуцца да выканання гэтага Закона. Пачалі раздавацца галасы аб неабходнасці ўзаконіць двухмоўе, гэта значыць, як мы лічым, канчаткова даць рускай мове выцесніць беларускую. Гэтага рабіць нельга. Інакш, чым мы дакажам свету, што ў нас беларуская дзяржава? Па-другое, гэта было б несправядліва. Бо, акрамя рускіх, на Беларусі жыве шмат украінцаў, палякаў, прадстаўнікоў іншых народаў. Яны ўжо заявілі, у прыватнасці палякі, што, калі будзе аб'яўлена дзяржаўнай і руская мова, будуць патрабаваць такога ж становішча і для польскай. Гэтак жа і з украінскай. Значыць, па меншай меры чатыры мовы трэба было б аб'яўляць дзяржаўнымі. Але гэта канчаткова загубіла б беларускасць і падарвала б дзяржаўную незалежнасць. Між тым, ніхто, акрамя асобных груповак, не супраць, каб была адна дзяржаўная мова — беларуская (пры роўных правах на карыстанне ўсімі астатнімі). Ды беларуская мова і зразумелая народам, якія пераважна складаюць нацыянальную меншасць на Беларусі — рускім, украінцам, палякам і іншым.

Просім Вярхоўны Савет, народных дэпутатаў ні ў якім разе не ўводзіць двухмоўе; дзяржаўнай мовай павінна быць на Беларусі беларуская мова і ніякая іншая, і не патрэбны наконт гэтага рэферэндум.

*Жыхары Камянецкага раёна (103 подпісы).*

# «АДНАК ЗБРОЮ НЕ СКЛАЎ...»

Прачытайце гэты ліст! Яго пісаў чалавек, сэрца і сумленне якога пратэставала супраць здзеклівых, пагардлівых адносін да беларускай мовы, што сталі нормай у рэспубліцы. Час дзеяння — брэжнеўскі застой, той самы, пра які са слязьмі на вачах прыгадваюць тыя, для каго мерай дабра і зла заўсёды служыла карыта. Брэжнеўшчына — не сталіншчына. Калі «крамлёўскі горац» фізічна вынішчаў інтэлігенцыю, без якой кожны народ — зомбі, жыве ў бясспамяцтве, без мінулага і будучыні, то Хрушчоў і Брэжнеў дзейнічалі больш лагоднымі метадамі, толькі ўчыняючы час ад часу «паляванне на ведзьмаў», а менавіта на недабітых «нацыяналістаў», дыскрэдытуючы іх імёны, заганяючы ў псіхушкі, пазбаўляючы сродкаў для існавання. Мэта ж заставалася ранейшай: вывесці новую пароду чалавека «гомасавецікус», які, пакінуўшы свае нацыянальныя атрыбуты, уключаючы гісторыю, духоўныя набыткі і мову, бадзёрым крокам пашыбуе ў камунізм. Чым хутчэй усе нацыянальныя мовы сальюцца ў адну,— сказаў Мікіта Хрушчоў, ступіўшы на ганак нашага універсітэта,— тым хутчэй мы прыйдзем у камунізм.

На новым этапе барацьбы за светлую будучыню галоўнай задачай на Беларусі стала ліквідацыя нацыянальных школ. Акцыя праходзіла паспяхова. Надышоў момант, калі і ў Менску не засталося ніводнай. Услед за горадам узяліся высякаць беларускую мову на сяле. Першымі ахвярамі станавіліся тыя школы, куды паступалі вучыцца дзеці прыезджага савецкага начальства. З'явіўся, напрыклад, у Мядзелі на кіруючай пасадзе былы інструктар ЦК КПБ, і тут жа беларуская школа была скасавана, стала «русскоязычной» з усімі яе мясцовымі дзеткамі. Такім чынам была рэфармавана і мая школа ў Моўчадзі, дзе этнічна аднароднае насельніцтва (навокал адны вёскі) і дзе да сорак пятага года рускай мовы ніхто не чуў і не ведаў. Цяпер моўчадская моладзь ужо прыстойна «общается» на «великом и могучем».

Беларускія школы выжывалі ў глухіх мясцінах, і то больш пачатковыя, і то больш з добрай волі іх дырэктара і мясцовых улад. Пры ўсім тым хлуслівая сістэма рабіла выгляд, што нацыянальная культура ў рэспубліцы працвітае. Нават і ў рускіх школах (!), маўляў, вывучаюць беларускую мову і літаратуру. Праўда, у кастрыраваным выглядзе. Літаратуру — на ўроках, мову ж — «по желанию родителей» — у пазакласны час. Хочаш, каб тваё дзіця вывучала роднае слова, то хай застаецца пасля заняткаў, сам-насам з настаўніцай, што ірвецца з усіх сіл да роднага ачага. Не многія бацькі і дзеці вытрымлівалі такое.

Чалавек напісаў ліст міністру асветы з надзеяй, што той растлумачыць, чаму такое адбываецца, бо школы закрываліся і мова знішчалася з яго маўклівай згоды. Вядома, адрасант не ўсё ведаў пра правы і абавязкі нашага міністра і яго падначаленых. Не ведаў, напрыклад, таго, што Міністэрства асветы не мела права дзейнічаць самастойна, а толькі ў адпаведнасці з маскоўскімі і цэкоўскімі камандамі і дырэктывамі. Міністр, у былым дырэктар школы, «беларус у душы», не хацеў лезці на ражон. Да яго былі ўжо два міністры асветы рэпрэсаваны, ён не жадаў стаць трэцім. Разважаў, мабыць, што сцяну галавой не праб'еш. Людзі ў Міністэрстве асветы проста служылі. У іх было шмат клопатаў. Праблемай «зліцця моў» большасць з іх не цікавілася. Усе і так гаварылі парасійску, без намаганняў. Справаводства таксама ішло на рускай мове. Нічога дзіўнага, калі ўлічыць, што нават Саўміну не рэкамендавалася мець машынку з беларускім шрыфтам. Дзеля справядлівасці адзначым: абмеркаванне беларускамоўных дапаможнікаў для школ праводзілася аддзелам падручнікаў на нацыянальнай мове — заслуга перадусім загадчыцы аддзела Лапіцкай Ніны Фёдараўны. Ды яшчэ Клаўдзія Ільінічна Краўцова — інспектар-метадыст беларускай мовы і літаратуры, не баючыся ярлыка нацыяналісткі, гаварыла ў сценах Міністэрства па-беларуску. Яе ахоўвала службовае становішча. Трымаючы сталую сувязь з навукоўцамі, пісьменнікамі, яна спрыяла таму, каб роднае слова ў школе выжыла. Клаўдзія Ільінічна рыхтавала адказ міністра аўтару пісьма. Аднак як адрэагаваў дзеяннем міністр на тыя факты, што былі ў ім выкладзены, мне невядома.

Прачытайце гэты ліст. Сёння, калі неабальшавікі і іх «незалежная» прэса ўсчалі шалёны гвалт вакол «моўнага пытання», па-ранейшаму адмаўляючы беларускай мове ў праве на існаванне, ён, гэты ліст, гучыць надзённа. Друкуецца дакумент па копіі.

**Ірына КРЭНЬ.**

**Таварыш міністр! Да Вас звяртаецца маёр запасу Сазонаў Р. І. У студзені гэтага года я звольніўся з радоў Савецкай Арміі ў запас, зараз пенсіянер. Аднак зброю не склаў. Працую метадыстам пачатковай ваеннай падрыхтоўкі і фізкультуры ў райметодкабінеце. У раёне 21 сярэдняя школа, даводзіцца іх наведваць. Маючы на ўзбраенні дэвіз — не праходзіць міма парушэнняў і скажэнняў — я ў сельскіх школах з беларускай мовай навучання сустракаю абуральныя выпадкі зняважлівых адносін да нашай роднай мовы. Усе вучні маюць падручнікі на беларускай мове, а настаўнікі выкладаюць свае прадметы на рускай мове. Гэта фізіка, матэматыка, гісторыя, геаграфія і іншыя. Асабліва атрымліваецца недарэчнасць пры выкананні кантрольных работ. Умова задачы даецца на рускай мове, а дзеці апісваюць рашэнне на роднай мове. Гэта ніколечкі не хвалюе матэматыкаў, фізікаў. Атрымліваецца пачварнасць. Я спрабаваў сараміць настаўнікаў, завучаў. Адказваюць, што нам у інстытутах лекцыі чытаюць на рускай мове. Яму лекцыі чытаюць аднаму на рускай мове, а ў школе ён калечыць дзесяткі людзей. Загадчык райана згодны з тым, што гэта непарадак, аднак не можа патрабаваць, паколькі не ўпэўнены, ці будзе мець рацыю. Абавязкова патрабуецца Ваша растлумачэнне, удакладненне. Хоць у загадзе аб навучальных планах (№ 351 на 1978/79 навучальны год) ясна сказана пра савецкія школы з беларускай мовай навучання. Мяне асабіста дырэктары папракаюць у нацыяналізме і што я адстаў ад патрабаванняў часу. Ці маюць яны рацыю? Асабліва нядобра сябе паводзіць дырэктар жыткавіцкай школы № 4 Хількевіч П. С. Гэта школа ў ваенным гарадку, дзе вывучаецца толькі беларуская літаратура. Тав. Хількевіч П. С. паўтарае вучням, што хутка будзе загад, які адменіць нават выкладанне беларускай літаратуры, а настаўніцы беларускай літаратуры забараняе карыстацца тэкстамі на беларускай мове, хоць дзеці ахвотна чытаюць і разумеюць усё прачытанае. Ліст гэты не з'яўляецца скаргай на загадчыка райана тав. Лапановіча С. Н. Проста я прашу Вас адказаць мне: стаю я на правільных пазіцыях ці памыляюся? Альбо трэба заклікаць да парадку дырэктараў школ, завучаў за іх бескантрольнасць...**

**Прабачце, што патурбаваў. Хачу ведаць ісціну.**

1978 г. **САЗОНАЎ Р. І.**

# Моладзі ваенныя саюзы не патрэбны

**Тое, што на Беларусі ў апошні год настойліва прапагандуецца наданне статуса дзяржаўнай яшчэ і расійскай мове, вельмі ганебна. Я думаю, і ў Вярхоўным Савеце тыя дэпутаты, якія пагарджаюць беларускай мовай, зусім не народныя, а наадварот. Яны адракліся ад народа Беларусі. Яны таксама адракліся ад беларускай моладзі, калі цягнуць Беларусь у нейкія ваенныя саюзы. Гэта нам, моладзі, давядзецца ў выпадку чаго ісці на смерць ці на калецтва, а пхнуць нас у ваенную пастку людзі, якія самі ў рукі зброю не возьмуць, ды і дзяцей сваіх ад гэтага зберагуць. Мая Бацькаўшчына павінна прытрымлівацца нейтралітэту, аб чым ужо абвясціла на ўвесь свет і добра зрабіла.**

**Міхась ЛЕБЕДЗЬ,**
**вучань IX класа.**
**в. Стаховічы Пінскага раёна.**

# Моўныя курсы... у КДБ

**Днямі адбыліся выніковыя заняткі курсаў беларускай мовы ва Упраўленні контрразведкі Камітэта дзяржбяспекі Рэспублікі Беларусь. Выкладчыца курсаў Валянціна Карлаўна Раманцэвіч зрабіла вялікую справу. Яе слухачы — а гэта пераважна людзі з багатым вопытам спецыфічнай работы і служачыя Упраўлення — прадэманстравалі добрае валоданне дзяржаўнай мовай. Кожны з іх напісаў дыктант, а на заліковых занятках самастойна зрабіў агляд беларускіх газет. Прыемна было слухаць (асабліва гэта датычыць афіцэраў, якія паходзяць не з Беларусі), як яны на дзяржаўнай мове ўпэўнена выконвалі кантрольныя заданні. Адзін са слухачоў — падпалкоўнік У. А. Мацюшэнка — папрасіў замест прапанаванага агляду дазволіць яму прачытаць тры вершы: адзін — Кандрата Крапівы («Ехаў дзядзька на кірмаш»), другі — Ніла Гілевіча («Вы шуміце, шуміце нада мною бярозы»), трэці — свой, уласны.**

**Усе слухачы паспяхова здалі залік. Ад імя ТБМ яны атрымалі адпаведныя пасведчанні і значкі Таварыства. Тут жа дамовіліся стварыць першасную суполку ТБМ. Гэту работу згадзіўся ўзначаліць супрацоўнік Упраўлення, сябра Рэспубліканскай Рады і сакратарыята ТБМ В. І. Костка.**

**У зале прагучалі цёплыя словы шчырай падзякі на адрас Валянціны Раманцэвіч. Падумалася: заслужаная падзяка!**

В. АНТОНАЎ.

# Верны сын беларускага народа

*Заканчэнне. Пачатак у № 21.*

Цяпер беларусы самі будуць гаспадарамі на сваёй зямлі, і не будзе ўжо нас трывожыць і страшыць чужое войска і паліцыя... Абвешчанне незалежнасці Беларусі ёсць вялікім нацыянальным святам для ўсяго беларускага народа, і наша гімназія мусіць адсвяткаваць гэта свята дастойна і ўрачыста». Пачалася падрыхтоўка да свята: рэпетыцыі, спеўкі, паходы ў лес па дзеразу, ялінкі, рысаванне Пагоні і бел-чырвона-белых сцяжкоў. Галоўнае ж — гімназісты адчувалі святочнасць і разумелі значнасць падзеі, якую збіраліся ўрачыста адзначыць. І вось — вечарына, прысвечаная незалежнасці Беларусі. У будынку гімназіі сабралася столькі людзей, што былі перапоўнены зала, сумежныя класы, калідор. «Гэты велізарны натоўп людзей у замёрлай цішыні ўспрымаў як нешта святое першы раз пачутыя словы са сваёй гісторыі. Патрыятычны настрой узрастаў. Заканчэнне прамовы дырэктара змяніў магутны, як вулкан, кліч народа: «Хай жыве Незалежная Беларусь».

Урачыстасць завяршылася канцэртам. Гімназісты спявалі беларускія народныя песні, дэкламавалі вершы Купалы, кружыліся ў віхуры «Лявоніхі». Аўтар зазначае далей, што тагачасны Будслаў быў даволі значным асяродкам беларускасці. Мястэчка мела беларускую гімназію, клуб, бібліятэку, тэатр, хор, струнны аркестр. «Не было нядзелі, каб не адбылося якое прадстаўленне ці канцэрт. Рунню зелянела беларуская культура, пашыраючыся па суседніх вёсках». Аднак гістарычны лёс не быў спрыяльным для адраджэння беларускай нацыі: «Ворагі з Усходу і Захаду счапіліся кляшчамі ў барацьбе за беларускую спадчыну нашых дзядоў, топчучы маладыя ўсходы, руйнуючы і пераворваючы той грунт, з якога гэтыя ўсходы ўзрасталі...»

І ўсё ж у Заходняй Беларусі яшчэ доўга жыла вера ў незалежнасць роднага краю, ішла падрыхтоўка да змагання з польскімі акупантамі. «Беларусы ж былі пэўны, што польская акупацыя будзе знесена ўжо хутка і што Вільня станецца другой сталіцай Беларусі», сведчыць В. Жук-Грышкевіч у абразку-ўспаміне «У Вільні», апавядаючы, як адзначаліся ўгодкі «Акта 25 сакавіка» віленскай грамадой беларусаў у 1921 г. У святкаванні прымалі ўдзел прадстаўнікі беларускіх установаў, выкладчыкі і вучні беларускай гімназіі і васьмі беларускіх пачатковых школ, вайскоўцы з беларускага батальёна. Урачыстасць пачалася набажэнствам у Святадухаўскай праваслаўнай царкве. «Ужо сама царква гэта гаварыла аб славе Беларусі, бо пабудавана была ў чэсць пераможнай бітвы з маскалямі пад Воршай у 1514 годзе». Затым усе ўдзельнікі свята накіраваліся ў касцёл св. Мікалая на каталіцкую імшу. «Такім чынам,— зазначае аўтар,— па вуліцах Вільні адбывалася беларуская нацыянальная дэманстрацыя». Урачыстасць была прадоўжана ў зале Віленскай беларускай гімназіі. Гучэлі прывітанні да беларускай моладзі ад розных грамадскіх арганізацый, быў цікавы канцэрт, затым усе спявалі гімн «Не пагаснуць зоркі ў небе». Вечарам у беларускім клубе быў канцэрт, а затым — банкет. «Святкаванне 25 Сакавіка ў Вільні пад польскай акупацыяй адбывалася з нязменным уздымам штогод, нягледзячы на стала ўзрастаючы ўціск з боку польскай улады. Мяняліся арганізацыйныя формы і людзі ў сувязі з прымусовай ліквідацыяй беларускіх установаў, аднак лік удзельнікаў святкаванняў не толькі не памяншаўся, але нават стала ўзрастаў. На месца пасаджаных у вастрог ці выгнаных з краю прыходзіла новая хваля людзей, займала месца выбыўшых і цягнула далей даўно распачатую справу, вялікую справу 25 Сакавіка».

...1923 год, сталіца Чэхаславакіі Прага. Тут «знайшоў сабе прыпынак урад БНР з прэзідэнтам Крэчаўскім на чале, цэлы сцяг выдатных беларускіх палітычных дзеячаў, якія ўтварылі Беларускую Нацыянальную Раду... Да іх далучылася шматлікая беларуская студэнцкая грамада, бальшыня з якой прадстаўляла нешта нечуванае ў свеце: акадэмічную эміграцыю, г. зн. студэнтаў з-пад польскай акупацыі, перад якімі былі зачынены дзверы польскіх універсітэтаў, не выключаючы і краёвага — Віленскага, дзеля таго толькі, што яны не хацелі зрачыся сваёй беларускай нацыянальнасці». В. Жук-Грышкевіч падкрэслівае істотную адметнасць студэнцкай эміграцыі ў Празе: прадстаўнікоў славян, каўказцаў, балтаў, прыдунайскіх народаў лучыла салідарнасць і ўзаемаразуменне. І толькі расейцы з іх імперскімі памкненнямі трымаліся абасоблена. Жыццё студэнцкай эміграцыі ў Празе канцэнтравалася ў Студэнцкім доме. Тут адбылося і святкаванне 25 Сакавіка ў 1923 г. З самай раніцы зала была прыбрана бел-чырвона-белымі сцягамі, на пярэдняй сцяне красавалася Пагоня, а з правага боку вісела карта Беларусі, «якая сталася галоўным цэнтрам увагі студэнцкага натоўпу. Беларусь і яе межы сталіся тэмай дня ва ўсім гэтым асяроддзі». А пятай гадзіне дня шматнацыянальная студэнцкая аўдыторыя з увагай выслухала рэферат аб «Акце 25 сакавіка», воплескамі адказвала на віншаванні, якія складалі беларусам украінцы, грузіны, армяне, летувісы і інш. А пасля ўрачыстасці «кожны беларус фармальна быў атакаваны пытаннямі ды спрэчкамі на тэму Беларусі гэтай шматмоўнай студэнцкай масай». А восьмай гадзіне вечара адбыўся канцэрт для чэшскай публікі. Вечар адкрыў прафесар Пражскага універсітэта Аўген Ляцкі. Ён быў «бадай што першым літаратурным крытыкам, які пачаў знаёміць заходні літаратурны свет з беларускай літаратурай». Ён «даслоўна назваў «папуасамі» ўсіх тых, што не хочуць прызнаць беларусаў за самастойны, асобны народ». Аб значэнні «Акта 25 сакавіка» для беларусаў і славянства гаварыў у сваім выступленні старшыня Рады БНР Пётра Крэчаўскі. У канцэрце публіцы асабліва спадабалася прыгажосць і арыгінальнасць беларускіх песень у выкананні студэнцкага хору і спевы спадарыні М. «Святкаванне 25 Сакавіка ў Празе нарабіла многа гоману і сярод эмігранцкіх кругоў і сярод чэхаў. Найбольш ударыла яно па расейцах, якія нічога не ведалі аб беларускім вызвольным руху. Яны пачалі сваю кампанію супраць беларускіх сепаратыстаў. Неўзабаве сярод іх паўстала «Общество белорусов и малороссов», якое паставіла сабе за мэту змаганне з беларускім і ўкраінскім сепаратызмам».

У шчымліва-трагічным апавяданні «У савецкай турме» В. Жук-Грышкевіч дае палітычную ацэнку дзеянням органаў НКУС у «вызваленай» у 1939 г. Заходняй Беларусі. «Гэта быў сакавік 1940 г., калі НКВД у «асвабаджонай» Заходняй Беларусі распасцерла сваё панаванне над усімі людзьмі і стрыгла іх безапеляцыйна пад сваю машынку, падцягваючы розныя катэгорыі пад адпаведны нумар. Адных забралі ўжо зараз пасля прыходу і даўно згладзілі са свету, як найбольш небяспечных. Другіх з гэтай катэгорыі трымалі жывымі ў сваіх мучэльнях толькі дзеля таго, што спадзяваліся павялічыць далейшы лік ахвяр. Трэціх, хоць нічым не павінных, трэба было ізаляваць, бо гэта былі людзі думаючыя — інтэлігенцыя з асветай або мясцовы вясковы ці гарадскі актыў. Яны сваім здаровым розумам і развагамі маглі ўплываць на акружэнне і ўжо дзеля гэтага іх трэба было ізаляваць. Яны звычайна мусілі пасядзець з год у турме, прайсці серыю допытаў, а пазней «тройка НКВД» засуджала іх на павольнае кананне пры цяжкіх работах у савецкіх лагерах. Да гэтай катэгорыі далучалі таксама ўсіх тых, хто быў на службе цывільнай ці вайсковай пры паляках. Апрача таго, трэба ж было набраць на розныя лагерныя прадпрыемствы і «спецперасяленцаў». Усю тут пералічаную масу людзей мусіла прапусціць машына савецкай чысткі, гэта была першая перадумова прылучэння новай краіны да савецкага «раю». Дык нічога дзіўнага, што ўсе турмы былі перапоўнены да адказу. У камерах не толькі не было месца ўсім дзе легчы, але і сесці на падлозе не было дзе, а спаць прыходзілася па чарзе».

Пра допыты і здзекі над «ворагамі народа» ў турмах НКУС мы ўжо ведаем нямала. І таму цяжка ўявіць, як і ў тых неверагодных варунках свядомыя беларусы адзначалі свята 25-га Сакавіка. В. Жук-Грышкевіч апавядае пра скатаванага на допытах беларускага настаўніка Кастуся В., які, крыху ачуняўшы дзякуючы клопатам верных сяброў, прамаўляе «ціха, але выразна: «дваццаць пяць», і ўсе разумеюць, што ён мае на ўвазе нацыянальнае свята беларусаў. На наступны дзень на ранішняй прагулцы зняволеныя ўбачылі лічбу «25» і літару «С», напісаныя алоўкам на сценах турмы. «Пры набліжэнні груп з розных камераў чуліся словы «дваццаць пяць» знячэўку, хоць гэтыя групы адна другую і не бачылі...»

У кніжачцы «25 Сакавіка» надрукаваны таксама артыкул В. Жук-Грышкевіча «БНР ці БССР», які выдаваўся раней асобнай брашурай. Аўтар палемізуе з А. Пятровічам, які ў артыкуле «Праўда аб акце 25 сакавіка» сцвярджаў, што беларусы і іншыя народы Расійскай імперыі атрымалі дзяржаўнасць, толькі дзякуючы кастрычніцкаму перавароту і савецкай уладзе, што ўдзельнікамі Першага Усебеларускага Кангрэса былі «буржуазныя» інтэлігенты, памешчыкі, фабрыканты, кулакі, буйныя чыноўнікі; што Рада БНР не была правамоцным органам беларускай дзяржаўнасці, і г. д. В. Жук-Грышкевіч напамінае: беларусы, палякі, украінцы, армяне, грузіны, татары мелі сваю дзяржаўнасць у далёкім сярэднявеччы. Спасылаючыся на кнігу В. Кнорына «1917 г. в Белоруссии и на Западном фронте» (Мн., 1925), ён пераканаўча даказвае, што «бальшавікі нікому не стварылі суверэннай дзяржаўнасці, наадварот, яны знішчылі адроджаную ў 1917—1918 гады дзяржаўнасць забраных Расіяй нерасейскіх народаў і стварылі ім не незалежныя дзяржавы, а фікцыйныя савецкія рэспублікі, падпарадкаваныя Маскве. Яны адрадзілі расейскі імперыялізм, узмоцнілі яго і ўдасканалілі».

На матэрыяле артыкула В. Круталевіча «Без народнае апоры» («Полымя», 1967, № 2), успамінаў А. Чарвякова і А. Бурбіса («За Савецкую Беларусь», Мн., 1927) В. Жук-Грышкевіч паказвае, якое шырокае і ўсебаковае прадстаўніцтва меў Усебеларускі Кангрэс ад усіх пластоў беларускага народа, падкрэслівае, што «Народны Камісарыят Нацыянальнасцяў у Петраградзе даў згоду на Усебеларускі Кангрэс і нават асігнаваў на гэту мэту 50 000 рублёў». Аўтар робіць вывад: Кангрэс быў абвешчаны контррэвалюцыйным і разагнаны бальшавіцкім войскам па той прычыне, што дэлегаты Кангрэса галасавалі за незалежную ад Расіі беларускую дзяржаву і абралі Раду Кангрэса, якая была ператворана пазней у Раду БНР. В. Жук-Грышкевіч сцвярджае: Усебеларускі з'езд Саветаў 1919 года, які абвясціў Беларусь савецкай рэспублікай у федэрацыі з Расіяй, не быў правамоцным. «Толькі «Акт 25 сакавіка», згодна з воляй беларускага народа, выяўленай на Усебеларускім Кангрэсе, гарантаваў незалежнасць і непадзельнасць Беларусі і нацыянальную ды сацыяльную справядлівасць жыхарам яе. І хоць Акт гэты быў стаптаны расейскімі бальшавікамі, якія акупавалі тэрыторыю Беларусі, ён застаўся пуцяводнай зоркай беларускай незалежнай дзяржаўнасці ў сэрцах і свядомасці беларусаў». У канцы кніжачкі пададзены тэкст трох Устаўных Грамат Рады БНР, змешчана карта Беларускай Народнай Рэспублікі з брашуры Доўнар-Запольскага «Асновы дзяржаўнасці Беларусі» (Гродна, 1919 г.). Дарэчы, на гэтай карце дадзеныя аб тэрыторыі, якую на пачатку XX стагоддзя засялялі беларусы, супадаюць з дадзенымі карты з даследавання П. Мілюкова «Очерки по истории культуры» (газета «Культура», 1 сакавіка 1993 г.).

*Рагнеда* **АЛЯХНОВІЧ**

*БЕЛАРУСКАЕ ЗАМЕЖЖА*

## «ПОЛАЦАК»

**Выйшаў у свет № 3 часопіса «Полацак», які выдае культурна-асветніцкі цэнтр у Кліўлендзе (ЗША).**

**Выданне адкрываецца Велікоднымі віншаваннямі, дасланымі на адрас часопіса Мітрапалітам Менскім і Слуцкім, Патрыяршым экзархам усяе Беларусі Філарэтам, айцом протаіерэем Міхасём Страпко і яго сям'ёй. У рубрыцы «Пад бел-чырвона-белым сцягам» змешчаны артыкул Міхася Сташкевіча і Расціслава Платонава «Прарыў у трагічную будучыню», які прысвечаны стварэнню беларускай нацыянальнай дзяржаўнасці. Уладзімір Круталевіч прапануе чытачам даследаванне «Беларуская палітычная эміграцыя: самаацэнка пройдзенага», а Расціслаў Завістовіч — «75 угодкі 25 Сакавіка: мары і рэчаіснасць». Пра святкаванне 75-х угодкаў БНР у Менску распавядае Анатоль Старадарожскі.**

**«Полацак» працягвае публікацыю «Тапаграфіі знаходак манет і аздобаў», падрыхтаваную Міхасём Белемуком.**

**«Цікавая яшчэ і гэткая канстатацыя Віганда. Напрыклад, пад 1364, 1367, 1372, 1376 і 1382 гады ён пісаў пра крыжацкія напады на замкі і землі, што ляжалі каля Трокаў і над ракой Стрэвай, паабапал ракі Вільлі і над Нёманам крыху далей на захад ад упадзення ў яго гэтай ракі Вільлі. Віганд паведамляў, што пры кожным з гэткіх рабаўнічых нападаў крыжакі знішчалі цывільнае насельніцтва або бралі ў палон і гналі ў Прусію «ліцьвіноў-язычнікаў» і «рутэнаў» — так пачынаецца працяг артыкула Паўла Урбана «Да пытання этнічнай прыналежнасці старажытных ліцьвінаў», пачатак якога друкаваўся ў папярэдніх чатырох нумарах.**

**«Уласнаручныя паказанні Езавітава Канстанціна Барысавіча» змешчаны ў рубрыцы «З архіваў КДБ».**

**Чытачам «Полацака» прапануецца інтэрв'ю Міхася Белемука з Епіскапам Навагрудскім і Лідскім Канстанцінам «Паступова мы выхаваем свае кадры». Пра паездку ў Беларусь распавядае Віталь Цярпіцкі ў нататках, якія так і называюцца «Мая паездка ў Беларусь». У рубрыцы «З жыцця эміграцыі» змешчаны невялікі рэпартаж з святкавання 75-х угодкаў БНР у Кліўлендзе.**

**З літаратурных твораў у часопісе змешчаны «Ліст да сябры і «Лёгкія» апавяданні Васіля Хомчанкі» Масея Сяднёва і працяг дзевятай быліцы Міхася Кавыля «Із агню ды ў полымя».**

**«Полацак» багата ілюстраваны здымкамі, прысвечанымі святкаванню 75-х угодкаў БНР.**

**В. Ш.**

Да 820-х угодкаў з дня смерці Ефрасінні Полацкай



*О, святая і слаўная апякунка і асветніца народа Беларускага, маці нашая, Еўпрасіння! Глянь ласкавым вокам сваім на братоў і сёстры Твае, што з любоўю і надзеяй вочы душаў сваіх да Цябе падымаюць. Ты не засудзіла нас, што мы ў няволі сваёй доўгі час не маглі славіць Цябе ў цэрквах сваіх святога імені Твайго...*

З «Малітвы да святой Еўпрасінні».



# АПЯКУНКА БЕЛАРУСІ

Нарэшце вяртаецца беларусу яго сапраўдная гісторыя. І ён, вяртаючы сваю чалавечую і нацыянальную годнасць, са здзіўленнем і радасцю адкрывае для сябе забытыя ці наўмысна схаваныя імёны, якія ўзбагацілі не толькі айчынную, але і сусветную культуру. Сярод іх ярка і велічна ззяе імя Ефрасінні, асветніцы, кніжніцы, адной з самых адукаваных жанчын Еўропы XII ст., збіральніцы і апякункі талентаў. Доўгі час імя Ефрасінні хавалі за шыльду рэлігійнай дзяячкі, нават цемрашалкі. Так патрэбна было, каб з народа зрабіць паслухмяны натоўп, бо калі народ страчвае сваю духоўную спадчыну, то паступова губляе і пачуццё нацыянальнага «я», а значыць, становіцца раз'яднаным і безабаронным. Такі народ лёгка перамагчы, ім проста кіраваць, ператвараючы яго зямлю ў вялікую нарыхтоўчую кантору, што і сталася з Беларуссю.

Але чалавек створаны Богам, ён адраджаецца, вяртаючы ў сваю гістарычную свядомасць тысячы імёнаў сыноў і дачок бацькаўшчыны, хто ахвярна служыў яе вячыстай славе. Вяртаецца і імя патронкі нашае зямлі — Ефрасінні Полацкай.

Прадслава (такім было свецкае імя Ефрасінні) — унучка слаўтутага полацкага валадара Усяслава Чарадзея. Змалку выказала вялікія здольнасці да навукі. У 12-гадовым узросце прыгожая і адукаваная князёўна цішком уцякае ў жаночы манастыр. Пад імем Ефрасінні прымае пострыг і пачынае служыць асвеце роднай зямлі — «нача кнігі пісаці сваімі рукамі». Гэтым займаліся толькі мужчыны, і ўжо тое, што князёўна ўзялася за такую цяжкую справу, інакш як подзвігам не назавеш. Грошы, атрыманыя за кнігі, яна раздавала бедным.

Жывучы за манастырскімі сценамі, Ефрасіння не была адарвана ад свецкага жыцця і прымала чынны ўдзел у асноўных палітычных падзеях свайго часу. Надзеленая ясным розумам і моцнай воляй, мела вялікі ўплыў на вырашэнне палітычных пытанняў Полацкага княства.

Рупліва, крок за крокам, князёўна Ефрасіння пашырала асвету ў родным краі: заснавала жаночы, а пазней і мужчынскі манастыры, дзе пад яе кіраўніцтвам дзейнічалі скрыпторыі — майстэрні па перапісванні кніг; сваёй педагагічнай дзейнасцю дала новы штуршок развіццю школ на Беларусі. Заснаваныя асветніцай школы мелі перадавую для свайго часу праграму навучання, а значную частку вучняў складалі дзеці небагатых бацькоў.

Спаская царква, пабудаваная па загаду Ефрасінні,— адзіны храм на Беларусі, у якім фрэскі XII стагоддзя захаваліся амаль поўнасцю. Помню, вельмі ўразілі апавяды ўдзельнікаў амерыканскага ансамбля «Васілёк» пра паездку ў Полацк. Яны там, далёка за акіянам, ведалі пра цуд, які належыць беларускай зямлі,— фрэскавыя размалёўкі XII ст., імкнуліся пабачыць яго, каб яшчэ раз адчуць сваю еднасць з зямлёй продкаў. Да гэтага часу чую недаўменныя воклічы нашых суайчыннікаў з Амерыкі: «Ці можна так? Французы, італьянцы... ганарацца фрэскамі XV — XVI стагоддзяў, а тут — XII. І ніхто пра іх не ведае...» Гэта дакор нам і ад святой Ефрасінні, якая жыццё прысвяціла збіранню талентаў і пакінула пасля сябе выдатныя помнікі дойлідства, што перажылі стагоддзі.

З імем Ефрасінні Полацкай звязана і стварэнне полацкім ювелірам Лазарам Богшам слаўтутага крыжа — шэдэўра старажытнабеларускага мастацтва. Крыж быў зроблены на замову Ефрасінні для Спаскага манастыра ў 1161 годзе. Праца полацкага майстра не саступае лепшым узорам візантыйскага прыкладнога мастацтва, якія мелі сусветную славу.

Перыяд асветніцкай дзейнасці Ефрасінні доўжыўся амаль паўстагоддзя. Пад канец жыцця са сваёй сястрой Гардзіславай і братам Давыдам яна здзейсніла паломніцтва ў Іерусалім, дзе прынесла ў дар храму Гроба Хрыстова залатую кадзільніцу, там захварэла і памерла. Пасля смерці кананізавана праваслаўнай і каталіцкай цэрквамі. Мошчы асветніцы спачываюць у Спаскай царкве Спаса-Ефрасінеўскага манастыра ў Полацку.

У траўні 1991 года адбылася першая ў Беларусі пілігрымка. Уніяцкая моладзь ішла ад Оршы да Полацка, каб пакланіцца мошчам патронкі Беларусі, звярнуцца да святой заступніцы нашай з малітваю. Некалькі груп, што ішлі рознымі маршрутамі, сустрэліся каля Полацкай Сафіі. Адтуль хрэсны ход з малітвамі, іконамі, харугвамі накіраваўся да Спаса-Ефрасінеўскага манастыра, але вернікаў туды не пусцілі, нягледзячы на папярэднюю дамоўленасць. Такія рэаліі жыцця: беларусам на Беларусі не дазволілі адправіць службу ў гонар святой на роднай мове.

Таму яшчэ раз звяртаюся з малітваю-просьбай: «...а Ты Святая Эўпрасіння Полацкая — патронка Беларусі — ды ўсе святыя заступнікі беларускага народа, апякуйцеся намі, каб мы сталіся народам святым, выконваючым Волю Божую і сваё пасланство, каб прычыніліся да агульнага дабра тут на зямлі, а ў прышлым жыцці атрымалі вечнае шчасце, і Табе, прадвечнаму Валадару, прыносілі славу, чэсць і паклон на векі вечныя. Амін» (з «Малітвы за Беларускі Народ».// Божым шляхам. Рым, 1946. С. 59).

Ліля ПЛЫГАЎКА.

ЧЫТАЛІ?

# Знікаюць «белыя плямы»

Нядаўна выдадзены ў Менску зборнік артыкулаў «Інстытут беларускай культуры» пралівае святло на адну з «белых плям» нашай гісторыі. Аўтары зборніка — вядомыя навукоўцы, чые працы добра знаёмы цікаўнаму чытачу.

Інстытут беларускай культуры, як гаворыцца ў прадмове да выдання,— адметная з'ява ў гісторыі Беларусі 20-х гадоў нашага стагоддзя. Можна сказаць, відаць, болей. І найперш пра тое, што Інбелкульт тады практычна паяднаў перадавыя навуковыя сілы Беларусі. Не было б Інбелкульта — не мелі б мы зараз станоўчага вопыту нацыянальнага Адраджэння ў дваццатыя гады.

Пагартайце старонкі гістарычнага зборніка — і вы будзеце проста ўражаны багаццем іменаў людзей, хто прычыніўся да дзейнасці Інбелкульта. Сярод правадзейных членаў гэтай навуковай установы — Янка Купала, Якуб Колас, С. Некрашэвіч, Я. Лёсік, Я. Карскі, У. Пічэта, А. Смоліч... Кожны з іх увасабляе ў сабе плённае служэнне Бацькаўшчыне і навуцы.

Няма сумненняў, што сярод разнастайных артыкулаў зборніка вялікую цікавасць выкліча праца А. Жураўскага «Мовазнаўства». Лаканічна, спасылаючыся на мноства крыніц, аўтар асвятляе шматгранную працу Інбелкульта па пытаннях беларускага мовазнаўства. Вучоны слушна заўважае, што «важным фактарам развіцця літаратурнай мовы, нармалізацыі яе граматычнай сістэмы і слоўнікавага складу з'явіўся небывалы ўздым кнігадрукавання і такіх сродкаў масавай інфармацыі, як газеты, часопісы і радыё». Ёсць уздым і сёння, але ці ж такі ўжо ён небывалы? Асноўную ўвагу А. Жураўскі надае дзейнасці Інбелкульта, скіраванай на распрацоўку грамадска-палітычнай і навукова-тэхнічнай тэрміналогіі. Ці не гэты ж клопат павінен турбаваць нас зараз? Расказваючы пра тэрміналагічныя пошукі Інбелкульта, А. Жураўскі прыводзіць шэраг цікавых фактаў, падказвае шляхі вывучэння вопыту дваццатых гадоў, падае шырокую бібліяграфію па гісторыі беларускага мовазнаўства.

Якімі прынцыпамі кіравалася навукова-тэрміналагічная камісія пры падрыхтоўцы тэрмінаў? А. Жураўскі адказвае: «У аснове гэтых прынцыпаў была арыентацыя на слоўнік жывой беларускай мовы». І далей: «Камісія лічыла, што словы народнай мовы з іх канкрэтным семантычным напаўненнем будуць лепш перадаваць навуковыя паняцці і з цягам часу набываць абстрактнае значэнне. У тых жа выпадках, калі ў жывой народнай мове не знаходзілася неабходных тэрмінаў, перад камісіяй паўстала дылема: або ствараць новыя тэрміны з уласнага моўнага матэрыялу, або запазычваць іх з іншых моў. Па прыкладу чэшскіх моваведаў камісія аддавала перавагу ўтварэнню неалагізмаў, але ў строгай адпаведнасці з законамі беларускай мовы».

Падрабязна апісваючы шляхі напаўнення слоўніка тэрміналагічнымі матэрыяламі, аўтар шмат месца адводзіць стасункам Інбелкульта з рэспубліканскай краязнаўчай арганізацыяй, з аматарамі-краязнаўцамі на месцах. У прыватнасці, у 1925 годзе часопіс «Наш край» змясціў «Інструкцыю да збірання слоўніка-тэрміналагічнага матэрыялу ў беларускай мове». А на першым з'ездзе краязнаўства, які прахозіў у Інбелкульце 7—11 лютага, абмяркоўвалася і мовазнаўчая праца краязнаўчых таварыстваў. І вось — вынік. За тры гады ў камісію было дастаўлена 119 153 карткі-словы. Асабліва шмат карысная зрабілі ў гэтым накірунку на Віцебшчыне. У 1927 годзе быў выдадзены Віцебскі краёвы слоўнік у аб'ёме 9703 словы.

Чытача зацікавяць і клопаты Інбелкульта ў галіне правапісу, што таксама адлюстравана ў артыкуле А. Жураўскага.

Зборнік выдадзены «Навукай і тэхнікай». Няма сумненняў, што з цягам часу да шырокага чытача прыйдзе гэтая папулярная кніга, прысвечаная Інстытуту беларускай культуры. І, безумоўна, не такім малым накладам, як сёлетняе выданне — усяго ў 1100 пасобнікаў.

Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.

# Кароткая энцыклапедыя беларускай мовы

**Максім БАГДАНОВІЧ** (1891, г. Менск — 1917) — пісаў вершы на беларускай мове, хаця рос у сям'і, дзе гаварылі па-расійску, вучыўся ў Ніжнім Ноўгарадзе і Яраслаўлі. Паэтычную Максімаву душу жывілі беларускія казкі, песні, легенды, паданні, абрады, і ён рашыў аваладаць мовай сваіх продкаў настолькі добра, каб пісаць прыгожыя вершы паводле «вытанчаных» паэтычных жанраў: санаты, трыялеты, тэрцыны, каб даказаць, што беларускай мовай можна перадаць самыя высакародныя пачуцці.

У публіцыстычных артыкулах М. Багдановіч узнімаў праблему навучання роднай мове, яго непакоіла, што дзеткі беларусаў, вымушаныя вучыцца па-расійску, пазбаўлены шмат якіх адметных, чыста беларускіх слоў і звязаных з імі жывых, спрадвечных уяўленняў і перажыванняў народа, а гэта прыводзіць да збяднення дзіцячага псіхічнага жыцця.

Паводле Г. М. Малажай.

■■■

**Ян Ігнацы Нецыслаў БАДУЭН ДЭ КУРТЭНЭ** (1845, у Радыміне каля Варшавы — 1920), польскі і расійскі мовазнавец, прафесар некалькіх універсітэтаў, актыўны грамадскі дзеяч. У 1913 годзе за брашуру пра нацыянальны і тэрытарыяльны прынцыпы аўтаноміі стары прафесар нават трапіў у царскую турму.

Бадуэн дэ Куртэнэ цікавіўся і вывучаў нашу мову, спецыяльна абмяркоўваў яе аўтаномны статус. У сваіх «Лінгвістычных нататках і афарызмах» (1903 г.) сцвярджаў спрадвечнасць беларуска дзекання-цекання і цвёрдага «р».

Паводле А. Я. Супруна.




*Рубрыку вядзе*
*Лявон БАРШЧЭЎСКІ*

У плеядзе таленавітых грузінскіх паэтаў-рамантыкаў найярчэйшаю была зорка Ніколаза Бараташвілі (1817—1845).

*Ніколаз БАРАТАШВІЛІ*

## Маёй зорцы

За што ты ці то ў злосці, ці то ў крыўдзе
Ўглядаешся ў мяне, вяшчунка долі?
Я ўсё ж люблю цябе, хаця тваёй патолі
Не знаў і знаю: лепшае ка мне не прыйдзе.

Ты думаеш, на ўсё, што мне табою
Прызначана ў пасаг і мной жаданае,
Расчараваны, я махну рукою,—
Як на нязбытнасць, толькі абяцанае?

Звязалі нас з табою повязі, як шлюбныя,
Высокая мая, бо, нізкая, нашто ты?
Будзь добрай ці благой, а ты мне любая,
Бо ты ж — мігценне сутнасці маёй істоты.

Час прынясе і мне раскошу веснаходу,
Спазнаю цеплыню ў пагодлівыя дні,
Вось ты тады мне зверху з гэтае нагоды
Мой шчасны лёс, як жменю срэбра, сыпані.

## Мая малітва

О Божа, Бацька мой, зірні з нябёсаў
На сына грэшнага! Ён у бядзе —
Страсцям паддаўся, рызыкуе лёсам.
А хто ж бяду інакшы адвядзе?

Не ўводзь яго ў адчай, пакінь надзею:
Калісь і сам Адам Твой запавет
Пераступіў — і свет не сірацее.
Вялікі свет збярог за ўласны свет!

Напіцца ж дай і мне, жыцця крыніца,
Крыштальнае вады твае, і ўдаль
Нясі чаўнок маіх страсцей-блазніцаў
І плаўна ў прыстань ціхую прычаль.

О сэрцавед, ва ўсіх усе дазвання
Ты тайны знаеш, маеш к ім ключы.
Аб чым яшчэ прасіць?.. Маё маўчанне
Па дабраце ў малітву залічы.

* * *

Жывінку для жыцця ўзвей-вецер злою сілай
Зламаў і свіснуў мне: «Вось кветка — на, вазьмі!»
Яе расой нябеснаю заўжды расіла,
А ён, знішчальнік злы, расу змяніў слязьмі.

Няўжо ім, кволым, лёсам так прызначана
Трымцець ад бур, пакуль не распагодзіцца?
А мне, як толькі ўздумаю, што радасць страчана,
Імгненна сэрца з горычы заходзіцца.

*Пераклад Язэпа СЕМЯЖОНА.*

*Мама, пачытай!*

*Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ*

# У госці да крата

*Апавяданне*

Сонца прыпякала, з ласкавага і шчыкотнага рабілася злосным, і маці тады пераходзіла ў цень, пад сасну. А Валерыку хоць бы што. Ён спёкі не баяўся і нават нос лісцікам не заклейваў — хай загарае. Грому ён таксама не баяўся.

— Табе не страшна, сынок? — азвалася са свайго ложка маці, калі ноччу пачало бліскаць і грымець. Сама яна ад страху гатова была залезці пад коўдру з галавой. І наогул маці зусім не падобна на дарослага чалавека — худзенькая, тоненькая ды яшчэ, як бачыце, і палахліўка.

Валерыку ўспомнілася, як у час навальніцы бабуля вешала на разеткі галёшы і захінала посцілкай люстэрка. Пры кожным удары грому яна божкала ды хрысцілася. Валерык так і не змог яе пераканаць, што баяцца трэба маланкі, а не грому.

Калі і было яму ноччу не па сабе, дык зусім не з-за грымотаў. Ён яшчэ не прывык да гэтага вялікага дома, куды яны прыехалі на адпачынак. Усё было чужое, нязвыклае для вока — і залочаная люстра, і цяжкія прыгожыя шторы, і каляровыя мяккія дарожкі. І сяброў сабе хлопчык пакуль не знайшоў. Так што назаўтра, калі як ні ў чым не бывала заззяла сонейка і трохі падсохла, яны з маці ўзялі пакрывала і падаліся загараць.

Каля дзяжурнай на праходзе Валерык праходзіў няспешна, знарок павольна, і яна яму прыветна ўсміхнулася. Тым, хто бегае, яна ўсмешак не дорыць: строгім позіркам, без слоў напамінае, што тут Дом творчасці, людзі пішуць кнігі, і ўсялякім малым дзецям лепей бегаць ды шумець дома. Яна б і словамі напомніла, але не паспявала: хлапчукі праносіліся міма, як матацыклы на гонках, і толькі дробны тупат чуўся з лесвіцы і з калідораў.

Луг быў мокры. Давялося ўладкавацца на крутым схіле, што аддзяляў луг ад ляска. Учарашні лівень перапоўніў рэчку, і вада яшчэ не вярнулася ў нешырокае абрывістае рэчышча, трава была прыбіта і выглядала, чэзлай, нежывой.

Пакуль маці з кнігай раз-пораз перабягала з санцапёку ў цень, Валерык ляжаў нерухома, з заплюшчанымі вачамі. Раскінутымі сваімі рукамі-нагамі ён нагадваў няскладнага Бураціну.

— Ты ж бы хоць пераварочваўся,— не стрывала маці.— Блін на патэльні і то пераварочваюць, каб зарумяніўся з двух бакоў аднолькава.

Валерык сеў. Не таму, што паслухаўся маці, а зусім па іншай прычыне. Пад левай нагой, дакладней — пад пакрывалам яму пачуўся нейкі рух, нейкае слабенькае варушэнне. Штосьці там як быццам расло, узбухала. Як і ўсялякая невядомасць, гэта спачатку насцярожыла. Хто там? Яшчарка? Мыш? Вужака?

Хлопчык паволі адхінуў рог пакрывала і ахнуў. На яго вачах з зямлі вывяргаўся пясчаны вулканчык, прыкметна рос, і стала ясна: на паверхню прабіваецца крот!

— Яму горача там, накрытаму, вось і вылазіць,— зрабіў вывад хлопчык.

А маці, падумаўшы, дадала:

— На гэтым узгорку, сынок, ён ратаваўся ад паводкі. А жыў, як і ўсе краты, у пойме, дзе цяпер вада.

Яны стаялі на коленцах і, затаіўшы дыханне, сачылі за ходам падземнай працы. Валерык неяк бачыў крата, аднак нежывога. Уразілі лапкі — шырокенькія, вельмі падобныя на чалавечыя далоні. Гэтымі лапкамі жывы, уратаваны ад навальнічнай паводкі крот зараз спрытна адграбае пясок.

Нейкім новым позіркам акінуў хлопчык пакручастую, мутную цяпер рэчку. Маці кажа праўду: ноччу вада пазалівала і норы, і гнёзды, для ўсяго жывога на лузе гэта было сапраўдным навадненнем. А віной усяму лівень, які шумеў усю ноч.

Хлопчыку ўявілася, як узбухае, выходзіць з берагоў вада, як, апанаваны жахам, бяжыць сваімі падземнымі калідорамі крот... Прырода бывае не толькі гаючай, мілай воку, але яшчэ і грознай. Па тэлевізары не раз паказвалі, якія пажары бушуюць у сельвах, колькі бедаў прыносяць смерчы і землятрусы. Цікава, а ці ўмеюць краты плаваць? І ці праўда, што з іх шкурак выбляюць футры? Ды іх жа на адну сто штук патрэбна!

— Мама, а з чаго пашыта тваё футра?

Маці не здзівілася нечаканаму пытанню.

— З нутрыі,— адказала яна.— Іх спецыяльна гадуюць, каб было з чаго шыць зімовыя апраткі.

Хлопчык з палёгкай уздыхнуў. Пясчаны грудок тым часам расці перастаў. Крот, мабыць, адчуў прысутнасць людзей і затаіўся. Ці проста пашырыў сваю норку, паветра ў ёй стала болей, вось і заціх.

— Ой, спаліла плечы! — схамянулася маці і пабегла ў цень. А Валерык цярпліва чакаў, ці не вылезе кроцік, ці не з'явіцца яго вострая падслепаватая пыска. Паколькі вочы ў яго ёсць, значыць, некалі кратовы род жыў на паверхні. Што ж прымусіла яго зарыцца, схавацца ў зямлю? У нядзелю прыедзе бацька, Валерык зводзіць яго на гэтае месца — у госці да крата. І на ўсе свае пытанні пачуе адказы.

*Алесь ПІСЬМЯНКОЎ*

## Сны

Птушкаферма сніцца лісу,
Сніцца мішку мёду міса.
Сніцца зайчыку капуста,
Сніць цялятка хлеба лусту.
А свавольніку Рыгорку
Сніцца ў дзённіку пяцёрка.





## Залатое сонейка ...

Залатое сонейка
Выбегла на гонейкі,
І руплівая пчала
Дзень працоўны пачала.
Нават кот-вуркот і той
Ужо выпіў сырадой.

Што ж ты спіш усё, малы,
Што не вучышся ў пчалы?

## Ваякі

Грып ды Кашаль,
Два бандыты,
Зноў ваююць
З Апетытам.

Усё сочаць,
Усё сочаць,
Апетыт украсці
Хочуць.

Толькі возьмеш
Нас не дужа:
Апетыт мой —
Хлопец дужы!

У яго палкі
Герояў,
За яго яны
Гарою:
Вітаміны-грэнадзёры
З генералам
Памідорам,
Вітаміны-кірасіры



З Часнаком —
Ваякам шчырым.
Грып ды Кашаль,
Два бандыты,
Не ваюйце
З Апетытам!

## Вораг

Вам прызнаюся, што ўчора
У мяне з'явіўся вораг —
Забіяка з забіякаў,
Задавака з задавакаў.
Прачынаецца уранку
І цікуе каля ганку,
Гэткі важны, гэткі злосны,
Генерал курыны грозны.
Да мяне ляціць ён куляй
І крычыць, каб усе чулі:
«Я галоўны у бабулі,
Я любімы ў пчалы!»



## Навіны культуры



У Менску па запрашэнні Саюза музычных **дзеячаў** Беларусі знаходзіўся маладзёжны сімфанічны аркестр з нямецкага горада Цюбінгена. Маладыя музыкі з цікавасцю знаёміліся з беларускай культурай, сустракаліся з аднагодкамі. Восемдзесят маладых немцаў навезлі з нашай краіны, дзе пабывалі ўпершыню, пачуццё ўдзячнасці за гасціннасць і шчырасць.

НА ЗДЫМКУ: нямецкія і беларускія маладыя музыкі на рэпетыцыі ў ліцэі пры Беларускай акадэміі музыкі.

**Фота Уладзіміра ВІТЧАНКІ.**
**БЕЛІНФАРМ.**

## *Гісторыя ў анекдотах*

# «З дазволу караля і вялікага князя»

*Л. Р. КАЗЛОЎ*

*Працяг. Пачатак у №№ 1, 2, 4—6, 21 .*

Хутка тайнае стала яўным. Вестка пра тое, што Радзівілы парадніліся з каралём, выклікала незвычайны перапалох сярод іншых магнатаў, а нават і шляхты, якая загаласіла: маўляў, цяпер яе скруцяць. Такі шлюб зусім не ўваходзіў у планы кракаўскага двара. Жыгімонтбацька дык з гора памёр. Але ж затое Бона так узялася за бедную нявестку, што новая каралева Барбара не працягнула і пару гадоў. Відаць, свякруха нядрэнна разбіралася ў тагачасных дасягненнях хіміі, алхіміі і іншых прыдатных для такіх выпадкаў навук. У выніку Жыгімонт Аўгуст аўдавеў другі раз і люта ўзненавідзеў каралеву-маці. Здаецца, цяпер ужо зразумелая прычына ад'езду Боны ў Італію. Лёс, аднак, спасціг яе і на радзіме. Там яна пражыла ўсяго адзін год. Вось так Жыгімонт Стары і яго жонка каралева Бона «перамянілі той жывот часовы на вечны».

Гора горам, а пра нашчадка дынастыі ўсё ж трэба падумаць. Праз нейкі час, параіўшыся з дваром і Радзівіламі, ужо вольны ад бацькоўскай і матчынай апекі, Жыгімонт Аўгуст, узлыхнуўшы, паслаў сватоў ізноў да таго самага Габсбурга — у яго на выданні мелася яшчэ адна дачка, Кацярына. Паўнамоцным паслом да гэтай справы быў назначаны Мікалай Радзівіл Чорны, ваявода віленскі. Паводле існаваўшых тады звычаяў яму даручылі выконваць ролю сімвалічнага жаніха.

*Мікалай Чорны прыбыў у Вену, дзе даволі хутка атрымаў згоду на руку прынцэсы Кацярыны. Пасля ўдакладнення дэталяў шлюбнага кантракту і іншых спраў, якія закончыліся адпаведна банкетам і балем, «жаніха» Радзівіла з каралеўскай нявестай адвялі ў спальню. Віленскі ваявода з веданнем справы ўлёгся на ложку. Фердынанд Габсбург загадаў тое ж самае зрабіць дачцэ. Але яна зачырванелася і стала ўпірацца. Тады Фердынанд крыкнуў сыну: «Максіміліян, ану дапамажы!» І абодва Габсбургі падхапілі нявесту, адзін пад рукі, другі за ногі, а затым асцярожна ўзлажылі побач з нашым паўнамоцным пасломі «жаніхом». Сцэна можа і не зусім, як у ката з сабакам, але нешта падобнае на імгненне назіралася, пасля чаго без пяці хвілін каралева выскачыла са спальні. Устаў з ложа з супярэчлівымі пачуццямі і ваявода. Кажуць, што за гэты «подзвіг», а мо каб чаго лішняга не сказаў у Кракаве, імператар Фердынанд Габсбург урачыста надаў Мікалаю Радзівілу Чорнаму ганаровы тытул князя Свяшчэннай Рымскай імперыі.*

*І трэці шлюб не прынёс ні шчасця, ні наследніка. Маладая каралева мела якасці эпілептычкі, прычым прыпадкі здараліся ў найменш адпаведныя моманты. Жыгімонт Аўгуст зусім страціў інтарэс да прадаўжэння роду. Натуральна, такая сітуацыя вельмі непакоіла цесця, і калі да яго з нейкай місіяй прыбыў з Кракава асабісты сакратар караля, яшчэ мала каму вядомы будучы славуты гістарыёграф Марцін Кромер, то Фердынанд Габсбург стаў дапытвацца пра жыццё каралеўскай пары:*

*— Як ты, шаноўны сакратар, думаеш, чаму ў іх няма дзяцей?*

*— Не ведаю, найяснейшы пане,— адказаў Кромер,— бо я ўсяго толькі дзённы сакратар майго караля.*

*Працяг будзе.*

# Быік і месяц

**(Байка)**

**Наеўся неяк Бык дурной травы**
**І быццам зразумеў свае правы.**
**На Месяц злосна ён кідаўся,**
**А неба плашч**
**плашчом тарэадора здаўся.**

**Але, як ні скакаў і ні стараўся,**
**Да Месяца рагоў**
**ён так і не дабраўся.**
**І ўрэшце так, здурнеўшы, разззлаваўся —**
**З апошняй сілы скочыў**
**ды сарваўся.**

**У яміну зваліўся ён, нябога,**
**І там свае зламаў з разгону рогі.**

**Заўсёды ўмей свой гнеў перамагчы,**
**На Месяц здуру**
**не скачы.**

# Народная лякарня

## Д. ДЖАРВІС: Калій і яго значэнне

Калій адыгрывае велізарную ролю ў жыццядзейнасці арганізма. Ён найбольш важны, калі не асноўны элемент у комплексе мінеральных рэчываў, якія забяспечваюць збалансаванае функцыяніраванне клетак. Без яго фактычна немагчыма жыццё. Дарэчы, калій — самы распаўсюджаны на зямлі элемент, хоць ніколі не сустракаецца ў свабодным стане, а заўсёды ў сувязі з кіслатой. Крыніцай калію з'яўляюцца свежае лісце, пупышкі раслін, кара дрэў, карэнні раслін, плады трохлопасцевай каліны, вінаград, яблыкі, іншыя фрукты, мёд. Людзі і жывёлы інстынктыўна адчуваюць вострую патрэбу ў калії і ўсюды яго шукаюць. Малыя дзеці, прыкладам, ядуць зямлю, жывёла абгрызае стойлы, ліжа металічныя прывязі і перастае гэта рабіць, калі ў яе рацыён фермеры пачынаюць дабаўляць яблычны воцат. Максімальна патрэбны калій дзецям, аднак патрэба гэта існуе на працягу ўсяго жыцця чалавека. У харчаванні яго нічым нельга замяніць.

У садаводстве калій неабходны для ўтварэння рэчываў, якія надаюць трываласць сцвалам раслін і павышаюць іх супраціўляльнасць да хвароб. Ён садзейнічае ўтварэнню кветак з насення ў працэсе развіцця расліны. Калі не хапае калію, спыняецца рост расліны, паступова яна жаўцее і гіне.

Пры рацыянальным харчаванні калій рэгулюе працэсы, звязаныя з нармальным ростам і нармальнай здольнасцю тканак арганізма ўзнаўляцца. Пры яго недахопе парушаецца фізіялагічны і хімічны састаў цела, што прыводзіць да захворванняў. Мы назіраем з'явы няправільнага росту, як, напрыклад, утварэнне мазалёў на ступнях ног або няздольнасць тканак узнаўляцца,— калі выпадаюць валасы, псуюцца і гніюць зубы, гнуцца і ламаюцца пазногці. Калій неабходны для мяккіх тканак, а кальцый — для цвёрдых. Несумненна, калій запавольвае працэс зацвярдзення, які ставіць пад пагрозу ўсю крывяносна-сасудзістую сістэму чалавека. Адна з функцый калію — надаваць тканцы мяккасць. Калій — сродак, які дапамагае клеткам змагацца са шкоднымі мікробамі.

Народная медыцына лічыць, што для сваёй жыццядзейнасці бактэрыі адбіраюць вільгаць у клетак (нагадаем: водны абмен у клетках ёсць працэс паглынання і выдзялення вільгаці. Паглынанне вады называецца гідратацыяй, аддача вады — дэгідратацыяй або абязводжваннем). Пры дастатковай колькасці калію ў кожнай клетцы цела ён будзе адбіраць вільгаць, ствараючы неспрыяльныя ўмовы для бактэрый. Значыць, у няспыннай барацьбе паміж бактэрыямі і клеткамі цела бяруць верх тыя ці іншыя, у сувязі з чым ствараецца спрыяльнае асяроддзе ў арганізме або для клетак, або для бактэрый. У гэтым выпадку асаблівую ўвагу трэба надаваць ужыванню калію.

Калі здаецца, што клеткі цела прайграюць, можна з дапамогай правільнага метаду лячэння змяніць сітуацыю, ствараючы ўмовы, якія выключаюць перамогу бактэрый. Дзеянне розных сучасных лякарстваў навуковай медыцыны заснавана на здольнасці да інтэнсіўнага, хуткага паглынання вільгаці з клетак бактэрый, у выніку чаго апошнія гінуць, а хвароба мінае.



# На хвалях БТ

**2 ЧЭРВЕНЯ, СЕРАДА**

19.10. Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок».
21.00. Панарама.
22.25. НІКа.
22.40. На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

**3 ЧЭРВЕНЯ, ЧАЦВЕР**

8.55. Тэлебачанне — школе. Экзамен па беларускай і рускай мовах за курс базавай школы.
18.30. Навіны Бі-бі-сі.
20.25. Пазіцыя ўрада. Актуальнае інтэрв'ю.
21.00. Панарама.
23.25. На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

**4 ЧЭРВЕНЯ, ПЯТНІЦА**

18.30. Навіны Бі-бі-сі.
19.10. Эпіцэнтр. Дагавор аб калектыўнай бяспецы. Рэальнасць і перспектывы.
21.00. Панарама.
21.30. На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.
22.00. Адкрыццё І Беларускага фестывалю песні і паэзіі. Трансляцыя з Маладзечна.

**5 ЧЭРВЕНЯ, СУБОТА**

8.55. Тэлебачанне — школе. Экзамен па беларускай і рускай мовах за курс сярэдняй школы.
12.15. Роднае слова. Тэлечасопіс.
14.00. Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок».
18.00. І Беларускі фестываль песні і паэзіі. Другі тур конкурсу малодых выканаўцаў папулярнай песні.
21.00. Панарама.
22.00. І Беларускі фестываль песні і паэзіі. Канцэрт сучаснай песні.

**6 ЧЭРВЕНЯ, НЯДЗЕЛЯ**

10.30. Край. Гісторыка-публіцыстычная праграма.
18.00. І Беларускі фестываль песні і паэзіі. Канцэрт песень народаў Беларусі.
20.00. Панарама.
22.00. І Беларускі фестываль песні і паэзіі. Гала-канцэрт і ўрачыстае закрыццё. Трансляцыя з Маладзечна.



Заснавальнік: ТБМ імя Ф. Скарыны.
Наш адрас: 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
Тэлефон рэдакцыі: 33-17-83.
**Індэкс 63865.**

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак.
Пункт гледжання аўтара неабавязкова можа адпавядаць меркаванню рэдакцыі.
Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае. Наклад 8504 паасобнікаў.
**Зак. 274.**

**Падпісана ў друк 31.05.1993 г. у 15 гадзін.**
МВПА імя Якуба Коласа.
Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка».
220079, г. Менск, 1-ы Загарадны завулак, 3.